Адна зямля
Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашмяны
Маладзечна
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

28 сакавіка 2014 года №13 (987)



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Выставу Харашэвіча адкрылі 25 сакавіка

**МАЛАДЗЕЧНА.** Адкрыццё выставы ініцыяваў мастак з Маладзечна **Мікола Аўчыннікаў**. Працуе ў фае Палаца культуры. На ёй 22 работы мастака Кастуся Харашэвіча, які пайшоў з жыцця летась, адзначыўшы 86 год. Работы будуць экспанавацца да сярэдзіны красавіка, паведамілі ў Палацы культуры.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



# Васьмікласнік трапіў у рэанімацыю пад спайсам?



Калаж st.gdefon.ru.

Пад уздзеяннем спайсу маладыя людзі вар'яцеюць і могуць нават выйсці ў адчыненае акно.

**МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму ў рэанімацыю дзіцячай бальніцы з падазрэннем на атручванне наркотыкам паступіў 13-гадовы падлетак.**

Пасля школы ён разам з сябрам накіроўваўся дадому. Па дарозе яны спыніліся, хлопчык спажыў сумесь і… страціў прытомнасць. Яго сябар, перапалохаўшыся не на жарт, выклікаў "хуткую" і паклікаў на дапамогу настаўнікаў, распавялі ў РАУС.

Хлопчыка даставілі ў рэанімацыйнае аддзяленне дзіцячай бальніцы. Медыкі зрабілі ўсе неабходныя аналізы, але высветліць склад рэчыва, якім атруціўся школьнік, так і не ўдалося.

Падлетак суткі праляжаў у рэанімацыі, затым яго перавялі ў педыятрычнае аддзяленне і хутка адпусцілі дадому.

Загадчык дзіцячай бальніцы **Сяргей Рылаў** адзначае, што сёлета гэта першы выпадак. Раней такое здаралася, але, як і цяпер, пацвердзіць, што гэта было менавіта наркатычнае атручванне, не змаглі. Склад рэчыва заставаўся невядомым, дагэтуль яго не сустракалі.

Дарэчы, у школе, дзе вучыўся хлопчык, пасля гэтага здарэння дзецям перасталі дазваляць выходзіць у час урокаў, паведаміў "РГ" адзін з вучняў.

**Нават пасля першага ўжывання спайсу чалавек вар'яцее і ў некаторых выпадках не прыходзіць у норму нават пасля месяца стацыянарнага лячэння, папярэджвае галоўны пазаштатны псіхіятр-нарколаг Маладзечанскага раёна Аляксандр Бажко.**

## Наркотыкамі труцяцца штомесяц

З такім выпадкам начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі **Дзмітры Сухоцкі** сустракаецца ўпершыню. У такім малым узросце наркатычнага атручвання раней не здаралася. І хоць дакладна вызначыць рэчыва не атрымалася, эксперты мяркуюць, што гэта спайс.

– Пераважна наркотыкі ўжывае моладзь 16-19 гадоў, – удакладняе Дзмітры Сухоцкі. – Амаль кожны месяц з такімі атручваннямі адзін-два маладыя чалавекі трапляюць у рэанімацыю. А напрыканцы мінулага года быў і смяротны выпадак.

**Летась 22 снежня студэнт-першакурснік Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта з Маладзечна памёр у інтэрнаце ад перадазіроўкі.**

– Ужыўшы наркотык, – працягвае Дзмітры Сухоцкі, – чалавек проста перастае штосьці разумець. Ён паводзіць сябе як зомбі, нават можа выйсці ў адчыненае акно.

Суразмоўца таксама заўважыў: тыя, хто атруціўся наркотыкам, ведалі, што ўжываюць. Пра наступствы ад спайсаў ім расказвалі ва ўстановах, дзе яны вучацца. На пытанне, чаму ж вы ўжывалі іх, адказвалі аднолькава: "Хацеў паспрабаваць".

## Як гандлююць спайсамі

Ужо сёлета ў Маладзечанскім раёне ўзбудзілі шэсць крымінальных спраў за продаж і захоўванне курыльных сумесяў.

Распаўсюджваюць наркотыкі ў асноўным са сталіцы праз інтэрнэт-сайты.

Пішуць, быццам і зусім гэта не наркотыкі, распісваюць парады, што казаць міліцыі, калі раптам затрымалі, каб не трапіць у турму, выкарыстоўваюць і іншыя хітрыкі.

## Спайс стаў больш чым забавай

Сёлета за тры месяцы толькі ў сталіцы наркотыкі забралі жыцці семярых маладых людзей.

Амаль штотыдзень з'яўляюцца новы від спайсу. Яго ствараюць з вядомай асновы шляхам новай хімічнай формулы з напыленнем рэчыва-навінкі на травы ці табак.

Таму медыкі папросту не могуць вызначыць, чым канкрэтна атруціўся чалавек. Адпаведна, невядомыя і наступствы такога атручвання.

Урэшце грамадства адчула ўсю пагрозу ўжывання спайсаў. Прафілактычныя акцыі супрацоўнікі міліцыі ладзяць увесь час. Адна з іх пройдзе 26-29 сакавіка па ўсёй краіне. Вядома, аднымі акцыямі не па сілах засцерагчы кожнага ад ужывання спайсаў, але замоўчваць гэту праблему больш нельга.

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

ПАМЯЦЬ

# Раскватаруйся ў душы...

**У Вілейцы прайшла вечарына, прысвечаная 100-годдзю паэткі Ганны Новік.**

Паэтэсе з Вілейшчыны ўдзельніцы нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Ганне Новік 25 сакавіка споўнілася б 100 год.

У юбілейны дзень у выставачнай зале Вілейскага краязнаўчага музея сабраліся прыхільнікі творчасці, сябры і знаёмыя Ганны Новік, якая амаль усё сваё жыццё пражыла ў вёсцы Варонічы.

Лёс ніколі не песціў яе, больш за тое, пасылаў выпрабаванне за выпрабаваннем. Зведала яна і польскую турму, рызыкавала жыццём у антыфашысцкім падполлі, кіравала калгасам, працавала ў МТС... Асабістае шчасце ёй амаль не ўсміхалася. Яго яна знаходзіла ў паэзіі і нешматлікіх сябрах.

Адным з такіх сяброў, пра якога яна згадвае ў сваіх дзённіках, быў **Мікалай Судніковіч**, у мінулыя часы старшыня калгаса ў Балашах. На вечарыне ён расказаў прысутным пра малавядомыя факты з жыцця гэтай мужнай жанчыны.

Знаёмствам з Ганнай Аляксееўнай даражылі многія. Сярод іх былі і народны паэт **Максім Танк**, які пазнаёміўся з Ганнай Новік у Вілейцы ў 1940 годзе, і старшыня аблвыканкама **Мікалай Сухій**...

– І вось аднойчы, – расказвае Мікалай Судніковіч, – Мікалай Сухій тэлефануе мне і пытаецца: а ў якім доме цяпер жыве Ганна Новік? Адказваю: у тым самым, дзе вы начавалі.

Сухій загадаў, каб калгас пабудаваў Ганне Аляксееўне новы дом. Калі Судніковіч расказаў пра гэта Новік, то тая была катэгарычна супраць. Маўляў, ёй хопіць і таго жытла, якое ў яе ёсць. Але на гэтым гісторыя не скончылася.

– Сухій, калі пра гэта даведаўся, – працягвае Мікалай Судніковіч, – сказаў, каб у такім разе я разам з **Булгаком** (Вадзім Булгак – у тыя часы першы сакратар ГК КПБ у Вілейцы – рэд.) знайшлі жыллё для Новік у Вілейцы. І вось я прывёз Ганну Аляксееўну на бюро гаркама.

Калі дайшло да прыняцця рашэння аб выдзяленні ветэрану вайны члену Саюза пісьменнікаў Ганне Новік двухпакаёўкі, то яна спыталася ў членаў бюро:

– А колькі сямей стаіць на чарзе на жыллё ў Вілейцы?

Ёй адказалі, што 412.

– То ў такім разе я не буду па меншай меры двух чалавек адсоўваць у чарзе.



Мікалай Судніковіч разам з Раісай Соніч арганізавалі ўжо ў канцы жыцця Ганны Новік, у 1995 годзе, выхад яе паэтычнага зборніка "Мая Вілейшчына".

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Аб сустрэчах і ліставаннях з Ганнай Новік расказаў журналіст **Барыс Манцэвіч**, пра стварэнне апошняй прыжыццёвай кнігі "Мая Вілейшчына" распавяла **Раіса Соніч**, якая ў 1990-х загадвала гарадской бібліятэкай. Ганна Новік да сярэдзіны 90-х перажыла два інсульты і слаба валодала рукамі, то работнікі бібліятэкі штодня прыходзілі да яе, каб дапамагчы, запісаць успаміны, якія пазней былі змешчаныя ў "Маёй Вілейшчыне". Сёння фрагмент з гэтых успамінаў публікуецца намі на 19-й старонцы.

Ужо пасля смерці паэткі, а памерла яна ў 1997 годзе, быў выдадзены яшчэ адзін зборнік: "Барвовае лісце", назву якому, гаворыць Раіса Соніч, даў вілейскі паэт **Іван Лашутка** незадоўга да сваёй смерці.

І вось зусім нядаўна Вілейская раённая бібліятэка выпусціла невялічкі зборнічак лірычных вершаў Ганны Новік "Раскватаруйся у душы", прэзентаваны на сустрэчы.

Ганна Аляксееўна ў канцы свайго жыцця, не маючы побач родных, знаходзіла блізкія і ўзаемаразумелыя душы ў тых, хто яе разумеў. Пра шчымлівую гісторыю свайго знаёмства ўжо на зыходзе жыцця Ганны Новік расказала **Людміла Дзямідава**.

*"Раскватаруйся у маёй*
*душы,*
*Займі сабой усе*
*яе пакоі,*
*Пачуцце адзіноты*
*заглушы,*
*Дапамажы забыцца*
*пра такое..."*

Большасць лірычных вершаў Ганны Новік і сёння могуць чытацца і хваляваць, як і дзясяткі год таму.

**Мікола ГАЙДУК.**

ПАЛЯВАННЕ

# Чакайце, калі глушэц "шчоўкне"

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 20 сакавіка ў Беларусі адкрыўся сезон палявання на цецерука і глушца.**

Паляваць на іх можна ад трох гадзін ночы да дзевяці раніцы. Паляваць можна са стрэльбы на токах з засады, а на глушца – яшчэ і з падыходу.

Пры гэтым можна выкарыстоўваць наразную паляўнічую стрэльбу з дульнай энергіяй кулі вышэй за 400 джоўляў і гладкаствольную паляўнічую стрэльбу, якая выкарыстоўвае патроны з шротам.

**За незаконную здабычу цецерука давядзецца кампенсаваць страты у памеры 10 базавых велічынь, а глушца – 70 базавых. Гэта аўтаматычна цягне крымінальную адказнасць.**

Глушэц настолькі каштоўны з-за таго, што яго вельмі мала ў Беларусі – менш за дзесяць тысяч асобін. А цецярук больш распаўсюджаная птушка сямейства цецеруковых.

Паляванне на глушца цікавае таксама з-за біялагічных асаблівасцяў гэтай птушкі: наблізіцца да яе можна, толькі падгадаўшы момант, калі глушэц на току па-асабліваму "шчоўкне" і "аглухне" на некалькі секунд.

**Пры паляванні на птушак варта трымацца правілаў бяспекі:**

- пры абмежаванай бачнасці не страляйце па птушцы, якая ўзляцела ніжэй за 2,5 метра,
- не страляйце на шум, шоргат, па няясна бачнай цэлі, у тумане, у снегапад, у змроку, супраць сонца і пры іншых неспрыяльных умовах.

"Тэлефон даверу": **8(033) 333-6-000, 8(017) 390-00-00** кругласутачна.

**Андрэй ЗАПАСНІК, начальнік Маладзечанскай міжраённай інспекцыі.**

ЭКАЛОГІЯ

# Людзі пагасяць святло, каб прысвяціць Зямлі 60 хвілін

**У суботу, 29 сакавіка, у 20:30 людзі па ўсім свеце выключаць святло на адну гадзіну, Гадзіну Зямлі. Удзельнікі гэтай актыўнасці паказваюць, што неабходна аб'яднацца, каб змагацца са змяненнем клімату.**



Фота tanlinfo.ru

Выключэнне святла – сімвалічны рух. Такім чынам любы можа паказаць сваю заклапочанасць праблемай забруджвання навакольнага асяроддзя і змяненнем клімату.

Рашэнне гэтых праблем залежыць ад усіх і кожнага, ад нашага спажывецкага выбару і стылю жыцця.

Акцыя заклікае змяніць простыя штодзённыя звычкі, эканомна расходаваць электраэнергію і цяпло, беражліва ставіцца да вады. А таксама зрабіць выбар на карысць другаснай перапрацоўкі паперы і іншых матэрыялаў.

Усе гэтыя дзеянні дапамогуць паменшыць выкіды парніковых газаў, якія і сталі галоўнай прычынай змянення клімату.

Падумайце пра тое, як асабіста вы ўплываеце на навакольнае асяроддзе і што можаце зрабіць, каб зберагчы планету.

Пра акцыю паведамляе Беларускі зялёны партал.

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ

# Пераносяць працоўныя дні ў красавіку

**Урад прыняў рашэнне аб пераносе працоўнага дня з серады, 30 красавіка, на суботу, 3 мая. Такім чынам, працоўны тыдзень будзе выглядаць так:**

Панядзелак, 28 красавіка, – працоўны дзень.

Аўторак, 29 красавіка, – выхадны (рэлігійнае свята Радаўніца).

Серада, 30 красавіка, – выхадны (перанос на 3 мая).

Чацвер, 1 мая, – выходны (Свята працы).

Пятніца, 2 мая, – працоўны дзень.

Субота, 3 мая, – працоўны дзень.

Нядзеля, 4 мая, – выхадны.

**Паводле "Нашай нівы".**



# Базавая велічыня вырасце ад 1 красавіка да 150 тысяч рублёў

**Базавая велічыня ў Беларусі з 1 красавіка складзе 150 тысяч рублёў. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў №255 ад 25 сакавіка 2014, паведамілі БелТА ў прэс-службе ўрада.**

Цяпер базавая велічыня складае 130 тысяч рублёў.

Базавая велічыня — гэта эканамічны паказчык, які вызначае абстрактную каштоўнасць пакупніцкай здольнасці грошай, не звязаную з ацэнкай якіх-небудзь канкрэтных матэрыяльных або нематэрыяльных выгодаў. Базавая велічыня была ўведзена ў Беларусі з 2002 года, ужываецца для вылічэння многіх паказчыкаў і нарматываў у сферы працоўных праваадносін, вызначае памер штрафаў і пошлін.

Таксама паведамляецца, што тарыфная стаўка першага разраду павысіцца з 1 красавіка і з 1 мая.

Для аплаты працы работнікаў бюджэтных і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаныя па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый, тарыфная стаўка першага разраду з 1 красавіка ўстаноўлена ў памеры 262 тысяч, з 1 мая – у памеры 275 тысяч.

**Паводле БелТА.**

СВЯТЫ

# Юбілей адзначылі капуснікам

**МЯДЗЕЛ. На мінулым тыдні музею народнай славы споўнілася 45 гадоў. Юбілей адзначылі 20 сакавіка капуснікам "А нам 45".**

Супрацоўнікі музея выступілі ў вобразе муз гісторыі Кліа, якія ўначы разгульвалі па музеі і падслухоўвалі, пра што шэпчуцца прадметы – такія, як хата рыбака, падушка ад казацкага сядла, рыбалоўны кручок, іншыя.

Таксама госці маглі паглядзець слайд-фільм, выставу да юбілею музея. А яшчэ на адной выставе паказалі... арыгінальныя бутэрброды, якімі прапанавалі пачаставаць.

І падарункі для музея былі цікавыя. Для прыкладу, ад цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Танка падарылі адмыслова аформлены летапіс.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЭКАЛОГІЯ

# Што можа хавацца ў вадзе вясковай студні

**Ад ранняй вясны і да позняй восені гараджане вязуць дамоў ваду са студні ці з крыніцы. Пры гэтым большасць шчыра верыць у тое, што такая вада чыстая, смачная і карысная.**

Аднак да яе трэба ставіцца з асцярогай, упэўненая спецыяліст па ўстойлівым упраўленні воднымі рэсурсамі Цэнтра экалагічных рашэнняў **Наталля Парэчына**:

– Вельмі сур'ёзная праблема для нашай краіны – забруджванне вады нітратамі. Прытым на смак, пах і колер гэта ўбачыць немагчыма.

**У краіне каля 44 тысяч студняў. Гэта і грамадскія, якія месцяцца на вясковых вуліцах ды алеях дачных кааператываў, і прыватныя студні – у дварах.**

Раённыя цэнтры гігіены і эпідэміялогіі чатыры разы ў год выбарачна правяраюць грамадскія студні. Па іх дадзеных, у чацвертай часткі пробаў, якія яны бяруць, у два разы перавышаная гранічна дапушчальная канцэнтрацыя нітратаў.

На самой справе, лічба яшчэ большая, бо ніхто не вядзе статыстыку па чысціні вады ва ўласных студнях, якія правяраюцца толькі платна і толькі па заяве грамадзян.

Атрымліваецца, што са значным перавышэннем нітратаў вада ў 50-70% беларускіх студняў. Самая горшая сітуацыя ў Брэсцкай вобласці. Лепш за ўсё – у Віцебскай і Магілёўскай абласцях. У Мінскай вобласці вада з нітратамі ў 26–69% студняў і крыніц.

Адкуль такая вялікая разбежка? Таму што ўсё залежыць ад раёна. Нават дзве студні, якія знаходзяцца побач, могуць мець розную канцэнтрацыю нітратаў у вадзе. Гэта залежыць ад іх глыбіні і ад таго, ці правільна была зробленая шахта студні. А яшчэ ад пары года: нітратаў у вадзе менш летам і зімой, а больш – вясной і восенню.

### Адкуль бяруцца нітраты

Склады ўгнаенняў і пестыцыдаў, палі, звалкі, месцы захоўвання гною або кампосту, сельскія прыбіральні, хлявы з каровамі і свінямі, блізкасць жывёлагадоўчых ферм – усё гэта фактары рызыкі.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Прыватная студня ў Красным на вуліцы Набярэжнай, непадалёк ад Ушы.**

### Ці страшныя нітраты

У арганізме чалавека нітраты ператвараюцца ў нітрыты, якія ў дзесяць разоў больш таксічныя.

Яны ўзаемадзейнічаюць з бялком крыві гемаглабінам, які адказны за перанос кіслароду, і пазбаўляюць яго гэтай здольнасці. Гэта выклікае кіслароднае галаданне, разбурае эрытрацыты. А гэта ў сваю чаргу прыводзіць да парушэння функцый ферментных сістэм, уздзейнічае на цэнтральную нервовую сістэму, сардэчна-сасудзістую, эндакрынную сістэмы, абмен рэчываў, парушае імунны статус і можа запусціць развіццё анкалагічных захворванняў.

### Хто ў групе рызыкі

Асабліва ўразлівыя немаўляты, асабліва да 7 месяцаў. Яны не толькі п'юць шмат вадкасці, але ў іх у гэтым узросце ёсць асаблівасці ў рабоце ферментных сістэм.

У групе рызыкі таксама дарослыя, у якіх паніжаная кіслотнасць страўнікавага соку.

Крыніца атручэння нітратамі не толькі вада, але і ежа, прыгатаваная на ёй. Грудное малако, калі маці п'е ваду са студні. А таксама гародніна, палітая такой вадой.

Нітраты добра пранікаюць у грудное малако і не разбураюцца пры тэрмічнай апрацоўцы.

### Ці можна нейтралізаваць нітраты

Нітраты нельга "забіць", пракіпяціўшы ваду. Пераважная большасць фільтраў для вады, якія прадаюцца ў Беларусі, іх канцэнтрацыю таксама не памяншаюць.

Гранічна ж дапушчальная канцэнтрацыя нітратаў у пітной вадзе – 45 мг/л, а самы лепшы варыянт – іх поўная адсутнасць.

Калі сумняваецеся ў якасці калодзежнай або крынічнай вады, звярніцеся ў раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі з просьбай прыехаць і ўзяць пробы.

Акрамя таго, у Цэнтры экалагічных рашэнняў можна ўзяць тэст-палоскі для праверкі вады на нітраты і нітрыты. Дадуць іх бясплатна, але ў абмен папросяць зайсці на сайт watercontrol.by і там пакінуць інфармацыю пасля атрымання вынікаў.

Тэст-палоскамі і каляровай шкалой карыстацца не складана, але, на жаль, яны ў Беларусі не сертыфікаваныя і нідзе не прадаюцца, хоць у Еўропе іх можна набыць у кожнай аптэцы.

### Як за якасцю сачылі раней

Раней за сялянскімі студнямі глядзелі ўсім светам. Увесну, калі сходзіў снег, уся вёска выходзіла іх чысціць. Людзі перадавалі вёдры па ланцужку і вычэрпвалі імі ваду. Апускалі ўніз лесвіцу, па якой спускаліся добраахвотнікі, і шчоткамі адціралі бярвёны ад гнілі. З дна студні паднімалі назапашаныя за год глей і бруд, выцягвалі упушчаныя вёдры і кубкі.

### Важна ведаць

1. Аб'ём адной ванны – 200 літраў вады
2. Бачка ў прыбіральні – 6-9 літраў
3. На прыём душу (10 хвілін) трэба 30-50 літраў вады
4. 50-70 літраў зрасходуе на адно мыццё пральная машына
5. Яшчэ 10-20 літраў пойдзе на мыццё рук і посуду
6. За тры хвіліны з адкрытага крана выліваецца вядро вады

Праз зніжэнне расходу вады адразу зніжаюцца выдаткі на эксплуатацыю сістэмы.

Паколькі вады спажываецца менш, то менш закупляецца абсталявання, хімікатаў, зніжаецца спажыванне электрычнасці, менш выдаткоўваецца сродкаў на ачыстку вады і яе даставку да спажыўца.

Эканомія вады зніжае і аб'ём каналізацыйных сцёкаў, адпаведна, зніжаецца і кошт іх ачысткі. Акрамя таго, эканомія вады зніжае нагрузку на прыродныя крыніцы і дазваляе захаваць іх запасы на будучыню.

А яшчэ мы эканомім грошы.

**Паводле інфармацыі Цэнтра экалагічных рашэнняў.**

## Цікавыя факты пра ваду

– Статыстыка кажа, што кожны дарослы выпівае ад 2 да 4 літраў вады ўдзень. Пры высокіх фізічных нагрузках – каля 4 літраў. А падчас фізічных нагрузак у гарачым клімаце колькасць вады можа павялічвацца да 12 літраў у дзень.

– Разам з тым, большая частка вады, якую мы "п'ём", уваходзіць у ежу: вытворчасць 1 кг ялавічыны патрабуе 15 тысяч літраў вады, пшаніцы – 1,5 тысячы літраў, а на 1 кг шакаладу трэба ўжо 24 тысячы літраў.

– У 20 стагоддзі спажыванне вады павялічылася ў 6 разоў, больш чым у два разы перавысіўшы тэмпы росту насельніцтва.

| Курсы валют НБ РБ | 20.03 | 27.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9830 | **9850** |
| Еўра | 13690 | **13600** |
| Злоты | 3256.42 | **3248.25** |
| Літ | 3963.23 | **3940.63** |
| Расійскі рубель | 271.5 | **278** |
| Грыўня | 974.23 | **899.54** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9820/9880 | **9840/9890** |
| Еўра | 13650/13750 | **13580/13670** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 19.03 | 26.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 116000 | **109500** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 48500 | **49050** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 25800 | **25800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 69000 | **72000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 29500 | **30500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32000 | **32000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **92000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9500 | **9500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **13500** |
| **Алей** | 14000 | **12500** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7700 | **7700** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 10000 | **10000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 7500 | **7700** |
| **Капуста**, 1 кг | 5500 | **5700** |
| **Морква**, 1 кг | 6000 | **6500** |
| **Буракі**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20500 | **21500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15000 | **15500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 18500 | **18500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 22500 | **24500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 24500 | **26500** |
| **Перац**, 1 кг | 35500 | **32500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 43000 | **28000** |
| **Бананы**, 1 кг | 16900 | **17100** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9500 | **9500** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | 17500 | **18500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13500 | **13500** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 42000 | **42000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | 20000 | **20000** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **55000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Жанчына за рулём "Пежо" выязджала з другараднай.

● АВАРЫІ

# Трайная аварыя ў цэнтры Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Аварыя здарылася вечарам 21 сакавіка на перакрыжаванні каля цэнтральнага ўвахода ў парк.**

Аўтамабіль "Пежо", якім кіравала жанчына, выязджаў з боку гасцініцы на Вялікі Гасцінец.

Кіроўца ўдарыла ў бок "Рэно", які ехаў злева (з боку Мінска).

"Рэно", атрымаўшы удар злева, спрабавала даць лявей і выехала на сустрэчную паласу.

Там машына сутыкнулася з "Фольксвагенам" і з'ехала на абочыну.

– Дзякуй богу, што сутыкненне было не лабавое! – пракаментаваў для "РГ" кіроўца "Фольксвагена".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Таксіст адбіў напад пасажыра

**МАЛАДЗЕЧНА. Глыбокай ноччу кіроўца таксі пад'ехаў да чыгуначнага вакзала ў Маладзечне ў надзеі знайсці кліента, што прыпазніўся.**

Апошні не прымусіў сябе доўга чакаць, да таксі падышоў 35-гадовы мужчына і папрасіў адвезці яго ў Вілейку, пабяцаўшы ўсё аплаціць з лішкам.

Як толькі машына выруліла на начныя вуліцы горада, пасажыр, які сядзеў ззаду, прыставіў да горла кіроўцы нож і запатрабаваў усю выручку, а таксама загадаў аддаць ключы ад аўто і выйсці з машыны.

**Таксіст не разгубіўся і, схапіўшыся рукой за вострае лязо нажа, адвёў яго ад горла. Затым выхапіў ключы з замка запальвання і выскачыў з машыны.**

Начны пасажыр выскачыў ўслед за кіроўцам і з нажом у руках кінуўся па слядах таксіста. Прабегшы некалькі метраў, нападнік рэзка павярнуўся і пабег назад. А ў гэты час таксіст ужо набіраў "102".

Дзяжурны РАУС накіраваў на месца здарэння групу затрымання Маладзечанскага аддзела Дэпартамента аховы, якая знаходзілася непадалёк. Выехалі міліцыянер-кіроўца групы затрымання роты міліцыі прапаршчык міліцыі **Віктар Танкевіч** і памочнік камандзіра ўзвода прапаршчык міліцыі **Сяргей Тумель**.

Праз хвіліну яны былі ўжо на месцы і апытвалі кіроўцу таксі. Той распавёў аб тым, што здарылася, даў прыкметы падазронага і паказаў, у які бок ён уцёк. На пошукі зламысніка ахоўнікам спатрэбіліся дзве хвіліны. Непадалёк ад месца здарэння па вуліцы Чарняхоўскага міліцыянеры затрымалі падазраванага, ім аказаўся раней неаднаразова судзімы мясцовы жыхар.

Матывы злачынства высвятляюць супрацоўнікі Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта, па гэтым факце ўзбуджаная крымінальная справа.

**Наталля СВІДУНОВІЧ, УУС Мінаблвыканкама.**

# Выпіў 1,5 літра піва і сеў за руль "Пежо"

**МАЛАДЗЕЧНА. Мужчына атрымаў 350 базавых штрафу за паўторнае кіраванне ў нецвярозым стане.**

Ён папаўся п'яным за рулём, калі адбываў пакаранне за такое ж парушэнне.

Яго злавілі п'яным за рулём другі раз. Летась у красавіку ён ужо быў асуджаны за парушэнне правілаў дарожнага руху, якое прывяло да менш цяжкага цялеснага пашкоджання. Аднак высноў з папярэдняй судзімасці не зрабіў і зноў сеў за руль п'яны ў час, калі адбываў пакаранне.

У лістападзе ён выпіў паўтара літра піва і паехаў на сваім "Пежо 806".

14 лютага ўступіў у сілу прыгавор суда Маладзечанскага раёна, паводле якога А. прызнаны вінаватым.

Ён атрымаў пакаранне – два з паловай гады абмежавання свабоды з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу. Яго таксама пазбавілі права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартам на пяць гадоў. Мужчына таксама павінны выплаціць штраф у памеры 350 базавых велічынь (45 мільёнаў 500 тысяч рублёў). У даход дзяржавы канфіскавалі аўтамабіль "Пежо 806", якім ён кіраваў, калі здзейсніў злачынства.

**Аляксандр ЛЯЎКОВІЧ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

● ПРЫГАВОР, ЗДАРЭННІ

# Скупшчыца золата абважвала кліентаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Летась у сакавіку ў пункт скупкі каштоўных металаў звярнулася жанчына, якая хацела прадаць пару завушніц і два залатыя пярсцёнкі.**

Залатыя вырабы прымала таваразнаўца-ацэншчык Т. Яна заплаціла кліентцы 740 тысяч рублёў – як за залатыя вырабы 585 пробы масай 3,29 грама.

Як высветлілася пазней, залатыя вырабы сапраўды былі 585 пробы, але масай 4,18 грама. А гэта ўжо каштуе больш за 930 тысяч рублёў.

У перыяд з сакавіка па жнівень Т. такім чынам абважыла яшчэ восем чалавек, абдурыўшы кліентаў на агульную суму каля двух мільёнаў рублёў. Каб схаваць падман, ацэншчыца пісала няпраўдзівыя звесткі пра вагу і кошт вырабаў у квітку для кліента. А ў тым квітку, што застаецца ў пункце скупкі, яна пазначала няпраўдзівыя звесткі пра кліента.

Калі падман скупшчыцы выкрылі, яна кампенсавала кліентам шкоду ў поўным аб'ёме.

Сёлета ў студзені суд Маладзечанскага раёна прызнаў Т. вінаватай у падмане і прызначыў пакаранне – штраф у даход дзяржавы ў памеры 70 базавых велічынь (9 мільёнаў 100 тысяч рублёў).

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 3 класа.**

# Вясновыя пажары: гараць і лясы, і людзі

**МАЛАДЗЕЧНА. За мінулыя выхадныя на Маладзечаншчыне зарэгістравалі больш за 10 узгаранняў травы.**

З надыходам цёплага, сухога, ветранага надвор'я пачасціліся выпальванні сухой травы.

Пакінутыя без нагляду, яны часта прымаюць пагрозлівыя памеры, пераходзячы ў тарфяніны і лясныя пажары. Пакутуе не толькі прырода. Пры спальванні сухастою ў дварах дамоў, бывае, загараюцца дамы, хлявы з жывёлай, гінуць людзі.

Нагадваем, што забараняецца выпальванне сухой расліннасці на сельгасугоддзях, тарфяніках, у лясным масіве.

**За выпальванне сухой расліннасці, травы пагражае штраф у памеры ад 10 да 40 базавых велічынь.**

За падобныя парушэнні прадугледжаная крымінальная адказнасць. Што датычыцца ўборкі уласных падворкаў, то смецце лепш за ўсё вывезці ў спецыяльныя месцы. Але калі вы ўсё ж такі вырашылі спаліць яго, то абавязкова выконвайце правілы пажарнай бяспекі.

Вогнішча раскладайце ў зацішнае надвор'е, на адлегласці не менш за 15 метраў ад надворных пабудоў, ні на хвіліну не пакідайце яго без нагляду, падрыхтуйце пярвічныя сродкі пажаратушэння (ёмістасць з вадой, пясок і г.д.).

### Не паліце вогнішчы

Большасць лясных пажараў узнікае ад непатушаных вогнішчаў. Лепш не распальваць іх у сухое і ветранае надвор'е і не ў спецыяльна адведзеных месцах.

Неабходна вакол вогнішча, на паласе не менш за паўметра, прыбраць усё, што можа гарэць і паслужыць прычынай распаўсюджвання агню. Пажадана, каб паблізу вогнішча была вада і галінкі для таго, каб імі загасіць полымя на выпадак распаўсюджвання гарэння.

Старайцеся не распальваць вогнішчы пад елкамі і соснамі і іншымі дрэвамі, якія маюць апушчаныя кроны. Нельга распальваць яго на старых высечках, участках пашкоджанага лесу. У сухое надвор'е і пры ветры падпаленыя галіны, лісце, вуглі пераносяцца на дзясяткі метраў.

Сыходзячы з лесу, пераканайцеся, што вогнішча затушылі, галавешкі і попел залілі вадой або засыпалі пяском.

### Ідзеш у лес – цыгарэту пакінь дома

Калі закурылі, неабходна памятаць, што гэта небяспечна, асабліва ў іглічных насаджэннях, дзе мала зялёнай травы і днём моцна падсыхаюць леташняя ігліца, лішайнікі, трава. Таму курыце ў спецыяльна адведзеных месцах або ўчастках, прыдатных для распальвання вогнішча і курэння.

Чаму ў лесе нельга курыць? Бо заўсёды існуе небяспека машынальна адкінуць ў бок падпаленую запалку або недакурак, і, як вынік гэтага, – пажар, аб якім яго віноўнік можа і не падазраваць.

За парушэнне правілаў пажарнай бяспекі, якія прывялі да ўзнікнення пажару ў лесе, вінаватыя нясуць адміністрацыйную і крымінальную адказнасць. Свядомыя паводзіны і выкананне нескладаных правілаў пажарнай бяспекі будуць гарантыяй збярэжання лясоў ад пажараў. Гэта ў інтарэсах кожнага з нас.

**Ксенія ЦІМАФЕЕВА, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

# У Германіі дзяцей вучаць мастацтву, філасофіі, палітыцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Вучань СШ №5 Арсень Макей распавядае, як яму жылося ў нямецкай сям'і з дня ў дзень цэлых паўгода.**


Фота забяспечана Арсенем МАКЕЕМ.

Маладзечанец Арсень Макей правучыўся ў Германіі год.

Арсень – пятнаццаты вучань, які паехаў у Хайнберг-гімназію Гётынгена па праграме "Стыпендыят" фонду ўсходняй Еўропы і педагагічнай службы па абмене.

Ён вярнуўся на радзіму, у Маладзечна, 17 сакавіка.

– Спачатку мне было вельмі складана, – прызнаецца Арсень. – Не хапала ведання мовы. Толькі праз два месяцы стала лягчэй.

Якраз гэтыя два месяцы хлопец паглыблена вывучаў нямецкую мову. Гімназію ён не наведваў, а толькі адмысловыя моўныя курсы для замежнікаў. У адной групе былі і азербайджанцы, і італьянцы, і іспанцы, і грэкі, і галандцы, і наш Арсень, беларус. Чатыры гадзіны заняткаў штодзень – і праз два месяцы Арсень ужо ў гімназіі разам з нямецкімі вучнямі.

Дарэчы, Беларусь – не адзіная краіна, з якой супрацоўнічае Хайнберг-гімназія. Маладзечанец апынуўся ў класе разам з гімназістамі з Чылі, Італіі і нават Аўстраліі.

### Што вывучаюць

Навучальная праграма ў Германіі вельмі розніцца з той, што мы маем у сваёй краіне.

– Усё ўперамешку. Па фізіцы і хіміі яны праходзяць тое, што вывучаў год таму. Біялогія ідзе паралельна з нашай праграмай. Па матэматыцы нейкія тэмы ўжо праходзілі раней, а нейкія яшчэ наперадзе толькі будуць, – адзначае Арсень.

Нямецкія школьнікі дадаткова праходзяць палітыку, рэлігію, філасофію, музыку, мастацтва.

– Я і ў нашу праграму ўключыў бы гэта. На палітыцы мы разглядалі партыі ў Германіі, сістэму праўлення іншых краін, іх праблемы, Еўрасаюз. Там дзеці не думаць, як бы прапусціць заняткі. Яны разумеюць, што адукацыя – самае важнае. Яна вызначае будучыню.

### Абед можна заказаць загадзя і на свой густ

Харчаванне ў нямецкіх школах арганізаванае зусім інакш. Там існуе электронная сістэма з чыпамі. Абед заказваеш за тры дні з дому праз інтэрнэт. Можна заказаць адразу на тыдзень наперад на любыя дні.

Прымусовага харчавання там не існуе. Калі ў дзіцяці восем урокаў і бацькі хочуць, каб дзіця паела, яны заказваюць абед. Калі шэсць – то могуць і не заказваць. Кошт аднаго абеду – 3,5 еўра.

### Жыццё ў сям'і

Арсеня прыняла да сябе сям'я Апераман. Маці завуць Хрысціяна, бацьку – Марцін, іх дзяцей – Нора і Хрыстаў. З дзяўчынай маладзечанец вучыўся ў адным класе, Хрыстаў на год за іх старэйшы.

У сям'і Арсень праводзіў амаль увесь вольны час. Яны разам хадзілі ў музеі, на прагулкі. Штовечар сям'я збіралася за сталом, і ўсе гулялі ў настольныя гульні: будавалі нямецкія замкі з картачак, было там і штосьці накшталт нашага даміно.

Час ад часу з'язджалася радня: сёстры і браты бацькоў, іх сем'і. Бабуля наведвала іх сям'ю штотыдзень, а часам і па два разы.

### Якія яны – немцы

Дамы ў Германіі будуюць вялікія, у два, тры паверхі. Але не шматкватэрныя гмахі.

Там часта можна сустрэць вегетарыянцаў. Дарэчы, Арсень якраз трапіў у такую сям'ю. Для яго мяса было ледзь не далікатэсам. Таму нацыянальныя нямецкія стравы ён асабліва і не рассмакаваў – усё больш заморскія.

– Ну і людзі там, як бы мовіць, сухія. Беларусы больш жывыя, эмацыйныя, – дадае хлопец.

Дома па тэлебачанні глядзяць пераважна дэтэктыўныя, крымінальныя фільмы.

Моладзь забаўляецца, як і ў нас – прагулкі, кавярні, боўлінг, іншыя забавы.

– Мяне прымалі вельмі добра і вельмі цёпла, – усміхаецца Арсень. – Праўда, апошнім часам ужо хацелася дамоў, пачаў сумаваць.

### Упершыню паедуць дзве дзяўчыны

Налета ў Хайнберг-гімназію ўпершыню паедуць адразу дзве стыпендыяткі – дзесяцікласніца **Юлія Лясечка** і дзевяцікласніца **Крысціна Клімовіч**, распавяла настаўніца нямецкай мовы сярэдняй школы №5 Зоя Дылеўская.

На час навучання фонд усходняй Еўропы і педагагічнай службы па абмене выдзяляе стыпендыю ў 2000 еўра. Гэтыя грошы ідуць на харчаванне ў школе, на падручнікі, на праязны, на розныя паездкі і мерапрыемствы, якія арганізоўваюць для вучняў, на кішэнныя расходы.

**Настасся РОЎДА.**

## Заробкі ў Германіі

Паводле інфармацыі Федэральнага статыстычнага бюро, сярэдні месячны заробак у Германіі без выліку падаткаў, без уліку бонусаў на 1 квартал 2013 года склаў:

1. Інфармацыйна-камунікацыйныя паслугі – 4 488 еўра
2. Навуковыя, прафесійныя і тэхнічныя паслугі – 4 059 еўра
3. **У адукацыі – 3 966 еўра**
4. На вытворчасці – 3 599 еўра
5. У сферы мастацтва і забаў – 3 391 еўра
6. У ахове здароўя і сацыяльных паслугах – 3 368 еўра
7. У дзяржаўным кіраванні – 3 355 еўра
8. У сферы рыначных паслуг – 3 307 еўра
9. У транспартаванні і складзіраванні – 2 877 еўра
10. У будаўніцтве – 2 639 еўра

Для параўнання: сярэдні заробак у Беларусі ў пераліку складаў 383 еўра.

ТЭАТР

# Выходзячы на сцэну, кажу сабе: **“Паша, расслабся і не хлусь”...**

**МАЛАДЗЕЧНА. Яму ўжо 20 гадоў, ён не разумее цяперашнюю моладзь, а калі гаворыць пра тэатр, падскоквае з месца.**

У адным з першых спектакляў сыграў шызафрэніка, у будучыні сябе бачыць у ролі Маякоўскага, а пакуль у свае 20 іграе Старога Карча. Ён – малады акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Павел Святоха.**

Павел нарадзіўся на Вілейшчыне, у вёсцы Гедзевічы. З 10 год жыве ў Маладзечне, скончыў гімназію-каледж мастацтваў па спецыяльнасці “акцёр, рэжысёр, выкладчык акцёрскага майстэрства”. З мінулага года – акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

– Першы спектакль, у якім я іграў у прафесійным тэатры, называўся “Падобны на Стынга”. Мая роля там была невялікая, але вельмі дарагая мне. Як я шкадую, што такі спектакль мы адыгралі ўсяго 5-6 разоў за гэты год! Увогуле, працай у тэатры задаволены. Сёння я заняты ў сямі спектаклях. Рыхтуемся да прэм'еры “Аблом OFF”. Там іграю доктара Аркадзія Міхайлавіча. І з кожнай новай рэпетыцыяй разумею, што тэатр – гэта хранічная хвароба. Мне падабаецца прымяраць на сябе вобразы, твары, характары... Мару пра ролю Маякоўскага – вось гэта тыпаж, вось гэта характар!

**– Як ты трапіў у драматычны тэатр?**

– Калі я вучыўся на другім курсе, дзяўчына, якая ўжо рыхтавала да пастаноўкі выпускны спектакль “Ноч Гельвера”, папрасіла ў ім паўдзельнічаць. Роля вельмі складаная, усе як адзін адмовіліся.

У спектаклі расказваецца пра хворага на псіхіку хлопца. Ахарактарызаваць уражанні гледачоў пасля прагляду я магу двума словамі: слёзы і шок. Вядучы майстар сцэны **Алена Рахмангулава**, якая выкладала ў мяне сцэнічны рух, адразу пасля спектакля спыталася ў мяне, ці хачу я працаваць у тэатры. І гэта было як падарунак зверху.

**– Кажуць, што маладыя акцёры ў тэатры – гэта з'ява часовая. Адпрацоўць год ці два і сыходзяць. Гэта пра цябе?**

– Не, на сённяшні дзень я знайшоў тое, чым мне падабаецца займацца. І сыходзіць я не планую. Каб яшчэ ў тэатры плацілі добра... Я ж не дзяўчына, разлічваць магу толькі на сябе.

**– Са старэйшымі калегамі-акцёрамі знайшоў агульную мову? З кім сябруеш?**

– Я лічу, што з калектывам мне пашанцавала. Усе ў тэатры класныя. З маладымі акцёрамі сябруем. **Аляксей Карпец, Дзяніс Фешчанка** – вось такія (задзірае вялікі палец уверх) хлопцы. **Таццяна Карпец, Сяргей Карзей** – выдатныя артысты і цудоўныя людзі. З **Андрыянам Барткевічам**, які ставіць “Абломава”, працаваць увогуле адно задавальненне.

**– І заўсёды знаходзіш паразуменне ці даводзілася адстойваць свой пункт гледжання?**

– З рэжысёрам не спрачаюся ніколі. Максімум, што магу сабе дазволіць, гэта задаць пытанне: а чаму менавіта так? Калі патлумачаць, усё становіцца зразумелым. І тады я пачынаю лавіць кайф ад ігры на сцэне. Акрамя Аркадзія ў “Абломаве”, такое ж задавальненне атрымліваю ад ролі Мацейкі ў спектаклі “На другі дзень Сёмухі”. Таксама вельмі падабаецца роля Старога Карча ў дзіцячым спектаклі “ Казка пра чырвоную стужачку”. Дзіцячыя спектаклі – гэта ўвогуле асобная гісторыя. Іх іграць нашмат цяжэй, таму што дзеці ловяць кожнае тваё слова, кожны рух.

**– У прыкметы акцёрскія верыш?**

– Я лічу, што ўсе прыкметы – толькі самаўнушэнне. Вось паверыш ты, што калі памыешся ў дзень прэм'еры, то не будзе поспеху, так яно і здарыцца. З тым жа поспехам я магу паверыць і ў любы камень на дарозе, што ён нейкі цудадзейны. Ідзе даецца, так яно і будзе! Таму веру толькі ў свайго персанажа. І, рыхтуючыся да ролі, быццам збоку гляджу на свае рухі, жэсты, нават голас. Ужываюся ў ролю па максімуму. Але, з другога боку, у гэтай поўнай аддачы свайму герою і свайму гледачу і ёсць увесь смак акцёрскай прафесіі. Перад выхадам на сцэну я заўсёды кажу сабе: “Паша, расслабся і не хлусь”... Так і раблю.

**– Пасля спектакля, калі ты так глыбока ўваходзіш у ролю, да цябе лепей не падыходзіць?**

– Не, чаму? Я як уваходжу хутка ў ролю, так з яе і выходжу. І гэта таксама трэба ўмець адразу здзіраць з сябе маску свайго героя. Пасля спектакля я магу і ў кафэ схадзіць, і кіно паглядзець...

**– І на дыскатэку з сябрамі на ўсю ноч...**

– Не, не кажыце мне пра гэта. Я на дыскатэцы быў толькі раз і то, таму што мяне прымусілі. Я не разумею, як можна ўсю ноч у пракураным памяшканні слухаць тупую музыку. “Sexy and I Know It”... Што гэта, патлумачце мне? Я слухаю музыку сур'ёзную, якая прымушае думаць. І на вуліцы заўсёды ў навушніках. Не магу слухаць вакол сябе, як моладзь брудна лаецца. А адпачываю на прыродзе. Вогнішча, хлеб з сасіскай, падсмажаны на ім, – гэта сапраўдны адпачынак.



Фота Наталлі ТУР.

Павел Святоха – акцёр, музыкант, паэт. “Чым старэйшым я станаўлюся, тым часцей думаю аб тым, што трэба пісаць кнігу. Гэта будзе містычны трылер”.



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08@mail.ru



Фота Паўла СТУЖЫНСКАГА.

Вадалаз зазняў сівуча на Камчатцы.

КОНКУРСЫ

## Вадалаз у фотаконкурсе

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанец Павел Стужынскі бярэ ўдзел у фотаконкурсе “У кадры – вадалазная справа”.**

Паша – вадалаз Мінскага аддзялення пажарна-аварыйнага выратавальнага атрада.

Летась ён пабываў на Камчатцы, дзе паднімаў затанулае судна. Там ён сустрэў сівуча, буйнейшага прадстаўніка сямейства вушастых цюленяў. І зрабіў фота.

Прагаласаваць за яго, а таксама ацаніць здымкі іншых удзельнікаў, можна на сайце **RH.BY**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Ганна Новік “З перажытага”

**ВІЛЕЙКА. Прапануем пазнаёміцца з вытрымкамі з успамінаў паэтэсы Ганны Новік, якой 25 сакавіка споўнілася б 100 год.**

### “Я нарадзілася з доўгімі валасамі”

Нарадзілася я 25 сакавіка 1914 года ў горадзе Аўгустове Сувалкаўскай губерні (цяпер гэта Польшча). Мае бацькі родам з Вілейшчыны: бацька з вёскі Варонічы, а маці – з Іжы. Дзед быў токарам па дрэве – тачыў міскі, талеркі, ступкі, якія былі неабходнымі рэчамі ў гаспадарцы, рабіў і гонту – дошчачку, якой крылі дахі дамоў. Усю зіму дзед праводзіў на гэтай рабоце, а ў астатні час ён займаўся сельскай гаспадаркай. Сям’я ў бацькі была вялікая, таму ён у 17 год наняўся фурманам да агента па швейных машынках “Зінгер”. Гэтыя машыны прыходзілі ў разабраным выглядзе ў Смаргонь, дзе іх збіралі, а потым прадавалі насельніцтву. Потым бацька стаў слесарам на складзе гэтых машын.

Маці ў шэсць гадоў засталася круглай сіратой, таму яна гадавалася ў апекуноў, а пасля стала служанкай у багатых гаспадароў.

Калі бацька працаваў на складзе зінгераўскіх машын, маці служыла кухаркай у фабрыканта па вырабе скур. Тут яны пазнаёміліся і пажаніліся, пасля чаго выехалі ў горад Аўгустоў. Пасля нарадзілася старэйшая мая сястра, я і іншыя дзеці, якія пазней памерлі. Я нарадзілася з доўгімі валасамі, на што акушэрка сказала, што хутка дзіця можа памерці. Нельга таксама абстрыгаць гэтыя валасы, бо дзяўчынка не будзе гаварыць.

### Нары замест ложка

У 1914 годзе, калі пачалася Першая сусветная вайна, бацька працаваў малатабойцам у прыватніка-каваля, а маці хадзіла ў багатыя семʼі і дапамагала з рознай работай. Калі ў горадзе стала цяжка пражыць, бацька рашыў паехаць дадому, на гаспадарку свайго бацькі: у Вілейцы жыла маміна сястра Марыя.

Нас са старэйшай сястрой Верай пакінулі ў цёткі, а самі паехалі ў вёску глядзець, што там ёсць. Колькі мы там прабылі, не памятаю, але бацькі прыехалі і нас забралі. Дома ў бацькі было яшчэ чатыры браты і сястра, маці таксама была яшчэ жывая, а дзеда Рамана ўжо не было.

Я памятаю, што некалькі дзён ішла спрэчка аб раздзеле гаспадаркі. Браты вярталіся з арміі, і кожны хацеў мець нешта сваё. Майму бацьку дасталася пятая частка зямлі і істопка з адным маленькім квадратным акенцам і земляной падлогай.

Помню першую абстаноўку ў хаце: салдацкі стол на “казлах” і нары замест ложка, дошка габляваная на калодках замест лавы і чыгунная печка з трубою, выведзенай у сцяну пад страхой.

Голад быў і ў вёсцы. Памятаю, як ішлі мы з мамай капаць бульбу, якая яшчэ цвіла. Я ўпала па дарозе і страціла прытомнасць. Тады я ўпершыню стала адрозніваць багатых ад бедных. Бацька хадзіў да багатых гаспадароў касіць, мама жала і палола, каб зарабіць сям’і на ежу. Яна хадзіла штодзённа ў Балашы жаць. Прыносіла адтуль часамі паўбохана хлеба, малака збаночак, а часам нават скварку.

### У шэсць гадоў дапамагала бацьку ў кузні

Мама стамлялася, кляла свой лёс, мы гэта чулі і вельмі рана сталі разумець складанасці жыцця. Потым бацька пабудаваў кузню, але гатовага жалеза не было, і ўсё рабілася з рэштак жалеза вайны. Нарогі да плугоў рабілі з гарматных гільзаў, адвалы – з чыгуначных рэек. Але гэта ўсё патрабавала шмат сілы і ўмення. У шэсць гадоў я дапамагала бацьку. Толькі не памятаю, як мяне адмывалі ад сажы і бруду. Потым стала дзьмуць мехам ля горна. Памятаю, што я не даставала да ручкі і мне бацька чапляў вяроўку.

Школы ў Варонічах яшчэ не было, яе адкрылі толькі ў 1924 годзе. Я добра помню абстрэл вёскі ў час грамадзянскай вайны, помню гарматныя выстралы, варонкі ад снарадаў, у якіх мы, дзеці, хаваліся падчас страляніны. Аднаго баяліся – ран і крыві.

Вучылася я чытаць па грошах, якія ў той час былі: керанскія, расійскія і польскія. Школа адкрылася польская, вучылі польскай мовай. Мне ахвотна дапамагаў бацькаў сябра – пільнік Зміцер, які жыў у суседняй вёсцы Катлоўцы. Гэта быў бывалы чалавек, які якраз тады нейкім чынам прыехаў з Петраграда і якога ў вёсцы называлі “забастоўшчыкам”.

### Бацька быў перакананы, што дзяўчат вучыць не трэба

З гэтымі ведамі я пайшла ў школу. За першую зіму прайшла тры класы. Першае пасведчанне за мае тры класы было датаванае 1924 годам. Настаўнікі выявілі ў мяне надзвычайныя здольнасці і рэкамендавалі бацьку вучыць мяне далей. Мой бацька меў чатыры класы прыходскай школы, думаў, што кнігі псуюць машыны. Быў таксама перакананы, што дзяўчат вучыць не трэба, і цвёрда трымаўся гэтай думкі. Таму кожную вольную хвіліну я была ў кузні і рабіла ўсе, што мне пад сілу. Я часта чула, як бацька папракаў маці, што тая не нарадзіла яму сына, які быў бы для яго памочнікам.

І мне хацелася як-небудзь загладзіць гэты нехахоп. Я пачала сябраваць з хлапчукамі. Мы спаборнічалі ў кіданні камянёў, лазілі па дрэвах і стрэхах, ездзілі верхам і выраблялі з дроту сярпы і косы.

У нас не было каня, толькі карова. У гаспадарцы было каля паўтара гектара зямлі разам з лесам і пашай. І калі бацька наймаў каня, то я зямлю апрацоўвала сама. Я ўмела араць плугам, умела касіць на балоце (там касіць лягчэй).

У 12 гадоў я закончыла чатыры класы пачатковай школы на “выдатна”, і бацька аддаў мяне вучыцца на краўчыху. Тады ў кожнай вёсцы было некалькі краўчых. У краўчыхі нас было тры вучаніцы. Дзве з іх былі больш рупныя за мяне, таму што я прывыкла да мужчынскай працы. Я ішла да гаспадара краўчыхі і дапамагала яму пілаваць і шчапаць дровы. Хатняй работы я таксама не любіла і не любіла займацца з іх трохгадовым сынам.

### Самавольна пайшла ў Куранецкую школу

Але гэта было толькі адну зіму. Мяне цягнула да кніг і школы. Гародзячы платы, нарыхтоўваючы дровы і дапамагаючы бацьку ў кузні, працуючы на чужой зямлі, вясной садзячы, а восенню выбіраючы бульбу, чытаючы рускую і польскую літаратуру, я дачакала 15 год, калі ўжо самавольна пайшла ў сямігадовую Куранецкую школу. Праўда, сястра паабяцала мне, што будзе дапамагаць, як зможа, – збіраць на продаж ягады і грыбы, каб назапасіць нейкія грошы для мяне. А мама паабяцала, што будзе мыць бялізну і рабіць, што трэба гаспадарам кватэры, хоць гэта было за 13 кіламетраў.

### Першыя паэтычная здольнасці

Помню, што ў 4 класе атрымала хатняе заданне напісаць верш у восем радкоў. Я напісала гэта заданне ўсяму класу, у тым ліку і сыну настаўніка, які зусім не меў здольнасцей. Настаўнік даведаўся аб гэтым і некалькі разоў выклікаў майго бацьку, гаварыў з ім аб неабходнасці маёй вучобы, але бацька, вядомы на сем вёсак каваль, не меў ніякага разумення аб вершах, лічыў гэта пустой выдумкай.

І каб паступіць у пяты клас Куранецкай школы, я пайшла да дырэктара на кватэру, напісала заяву і аўтабіяграфію. Дырэктар прыняў мяне. Польскую мову я ведала добра, як палячка. Вядома, чытала Пушкіна – “Капитанскую дочку”, “Метель” і іншыя апавяданні. На польскай мове я чытала Міцкевіча, Славацкага, Крышкоўскага, Канапніцкую, Ажэшку, асабліва захаплялася вершамі.

### Зарабляла на хлеб і цукар

У 1925 годзе пачалі будаваць хату, таму што дзеці падраслі, а істопка была цесная і цёмная. Хату будавалі на выгане, дзе сяляне з вёскі капалі гліну для цэглы. Мы з мамай збіралі лекавыя травы, насілі іх у Куранец прадаваць. Гэтым дапамагалі ў будаўніцтве і харчаванні. Калі я паступіла ў Куранецкую сямігодку, я аддалася школе і не звяртала ўвагі на будаўніцтва. Дапамогі ад бацькоў мне хапіла толькі на месяц. Я задумалася, што мне рабіць далей, але настаўнікам нічога не казала. Заўважыўшы мой стан, у маю адсутнасць, яны наведалі кватэру і ў гаспадароў даведаліся, як я жыву. Праз некалькі дзён мяне выклікалі ў настаўніцкую і прапанавалі падрыхтаваць двух вучняў. Бацькі гэтых вучняў абяцалі плаціць мне па 5 злотых у месяц. Я пагадзілася. За гэты заробак я магла купіць хлеб і цукар. З гэтага і складалася маё харчаванне.

У мяне быў заробак, і па дапамогу да бацькі я не звярталася, хаця жыла на хлебе і чаі. За ўвесь 5 клас бацька ні разу не быў у школе.

### Падпольную літаратуру насіла ў школу

Вілейскі інспектарат пачаў выдаваць часопіс “Малады грамадзянін”. Я пачала пісаць у гэты часопіс вершы, якія ахвотна друкавалі. 5 клас я закончыла на “выдатна”.

Шосты клас я скончыла за лета і ўвосень здала экзамен. Мяне перавялі ў 7 клас. Я ўжо смела пачала навучальны год, таму што быў задатак – 10 злотых, і яшчэ хапала на хлеб. Да таго часу я пазнаёмілася з вучнямі беларускай гімназіі, якія жылі ў Куранцы і навучаліся ў Вільні. Гэта былі **Хадзінскі Саша** з Чабатароў, **Гаўрысік Коля** і **Шупляк Саша** з Куранца. Я атрымлівала ад іх, акрамя афіцыйнай беларускай літаратуры, падпольную літаратуру. Асобныя брашуры я насіла сярод падручнікаў у школу. На кватэры я не магла іх пакінуць, не было дзе. Кватаравала я на Вілейскай вуліцы і хадзіла ля самых дзвярэй пастарунка паліцыі.

**Заканчэнне будзе.**



Фота з архіва Міхаіла СУДНІКОВІЧА.

**Ганна Новік, беларуская паэтэса, удзельніца нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі на Вілейшчыне.**

### ● КАЛЯНДАР

**28 сакавіка.** 1985 год. На 99-м годзе жыцця ў французскім горадзе Сэн Поль дэ Ванс памёр выдатны беларускі і французскі мастак Марк Шагал.

***

**95 гадоў** з дня нараджэння Веры Палтаран (Ляпеская, 1919 – 1989), беларускай пісьменніцы, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**80 гадоў** з дня нараджэння Кастуся Цвіркі (Канстанціна Аляксеевіча, 1934), беларускага паэта, перакладчыка, фальклырыста, выдаўца, этнографа.

***

**1995 год.** Памёр Часлаў Найдзюк, грамадскі дзеяч, юрыст, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі (1927 – 1935). Скончыў юрыдычны факультэт універсітэта Стэфана Баторы (1940), член Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні. У 1949 эміграваў у ЗША, арганізоўваў беларускае жыццё ў Каліфорніі, супрацоўнічаў з газетай “Беларус”.

***

**1886 год.** Памёр Уладзіслаў Борзабагаты, доктар, рэвалюцыянер-дэмакрат, мемуарыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў, аднадумец Каліноўскага.

***

**30 сакавіка.** 1940 год. Нарадзіўся Аляксей Марачкін, мастак, пачынальнік нацыянальнага культурнага адраджэння ў найноўшай гісторыі Беларусі.

***

**325 гадоў** таму (1689) пакараны смерцю Казімер Лышчынскі, “беларускі Джардна Бруна”, філосаф-матэрыяліст Рэчы Паспалітай, педагог і грамадскі дзеяч, аўтар трактата “Аб неіснаванні бога”. Быў абвінавачаны ў атэізме і згодна з прысудам пакараны смерцю.

***

**1831 год.** Паўстанцы пад камандаваннем Эміліі Плятэр разбілі невялікі расійскі аддзел каля паштовай станцыі Даўгел. Эмілія Плятэр, графіня, збіральніца беларускага фальклору, удзельніца паўстання 1830-1831 гадоў. На права называць яе сваёй гераіняй прэтэндуюць Польшча, Беларусь, Латвія і Літва.

***

**31 сакавіка.** 90 гадоў назад (1924) у Мінску адкрылы Дом Чырвонай Арміі (з 1992 года – Цэнтральны Дом афіцэраў).

***

**1 красавіка.** 105 гадоў з дня нараджэння Браніслава Смольскага (1909 – 2005), музыказнаўца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

Дзень смеху.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**




Дзяніс Канецкі, старшыня вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, раіць пачынаць грамадскія актыўнасці з малога. Напрыклад, з суботніка.

ІМПРЭЗЫ

# Вілейскія краязнаўцы вучылі маладзечанцаў

**ВІЛЕЙКА. Вілейская суполка Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры і выдавецтва газеты "Волат" зладзілі прэзентацыю сваёй дзейнасці ў Маладзечне ў гонар пяцігоддзя суполкі. Сустрэча адбылася ў панядзелак, 24 сакавіка.**

За пяць год сябры суполкі пад кіраўніцтвам **Дзяніса Канецкага** змаглі выдаць кнігу, падрыхтаваць магніцікі на халадзільнік, паштоўкі, арганізавалі работу па ўстаноўцы помніка паўстанцам 1863 года на Уладыках, усталявалі крыжы, паставілі інфармацыйныя стэнды, удзельнічалі ў многіх суботніках, спрычыніліся да шматлікіх культурніцка-гістарычных імпрэз.

Сябры суполкі працавалі актыўна і часта былі героямі публікацый на старонках "Рэгіянальнай газеты".

Пра тое, як у іх гэта атрымліваецца, яны і распавядалі маладзечанцам, зацікаўленым краязнаўствам.

## Замчышча Агінскіх: за год тое, што не паспелі за чатыры?

Прадстаўнікі на імпрэзе раіліся, якім чынам могуць падрыхтавацца да святкавання 250-годдзя з дня нараджэння земляка. Нагадаем, што у планах маладзечанцаў было паставіць каля замчышча гасціны двор, адкрыць музей гісторыі Маладзечанскага замка, грамадскі цэнтр, упарадкаваць замчышча – стварыць паўнавартасны турыстычны комплекс. Адпаведны праект у 3D мадэлі распрацаваў **Мікалай Тамашэўскі**.

Яшчэ на пасяджэнні ў маі 2013 года прадстаўніца райвыканкама **Наталля Нікіценка** адказала, што гэты праект можа рэалізавацца толькі як камерцыйны, а на бюджэт спадзявацца не варта.

За гэты час падрыхтоўка да юбілею абмяжоўвалася культурніцкімі справамі: маладзечанцы паставілі оперу пра Агінскага, дапамаглі зняць фільм рэжысёра **Анастасіі Мірашнічэнкі**, выканалі іншыя важныя асветніцка-мастацкія праекты.

**А што тычыцца замчышча, то яно чатыры гады стаіць некранутым. Юбілей будзе ўжо праз год, што РЭАЛЬНА могуць паспець зрабіць землякі слаўнага грамадскага, палітычнага і культурнага дзеяча еўрапейскага ўзроўню?**

Дзяніс Канецкі заўважыў, што турыстам, якія б і хацелі пабачыць замчышча, туды проста не заехаць. Турысту давядзецца паставіць машыну на абочыне дарогі, прайсці 500 метраў па вязкай глебе, паглядзець на ўзгорак і па той жа дарозе вярнуцца. Па яго ацэнцы, найбольшае, што можа зрабіць фонд і іншыя зацікаўленыя за год – з'езд з дарогі Маладзечна-Вілейка, паставіць інфармацыйны стэнд з эскізам замка. Можна паспрабаваць усталяваць цікавы незвычайны помнік ці камень.

– Гэта максімум, што можна паспець, – ацэньвае старшыня вілейскай суполкі. – Рабіць паўнавартасную дарогу да самага замчышча мае сэнс, калі там ёсць перспектыва. Напрыклад, калі ў будучыні паставіць кафэ. Пры планаванні варта адштурхоўвацца ад таго, на якую суму разлічаны праект.

Вілейскія актывісты гатовы дапамагчы маладзечанцам, калі тыя прапануюць канкрэтныя дзеянні.

## Віляйчане працуюць у памяць куміраў

"РГ" распытала ў дасведчанага ў гэтай справе Канецкага, якім чынам грамадскія актывісты могуць мяняць штосьці, што лічаць патрэбным? Безумоўна, на кожную актыўнасць яны мусяць мець дазвол ад уладаў. Напрыклад, каб правесці суботнік каля помніка ці на могілках, варта дамовіцца з мясцовым сельвыканкамам. Ён можа падключыць школьнікаў, і праца будзе плённай. Гэта самая простая актыўнасць і найменш затратная, якая таксама патрэбная.

Вядома, каб паставіць помнік, неабходна ўзгадніць праект, шукаць сродкі, але гэта таксама вырашальна. Летась суполка арганізавала работу, у выніку якой ва Уладыках абнавілі помнік паўстанцам 1863 года.

У чым жа феномен вілейскай суполкі, якую старшыня беларускага добраахвотнага Таварыства аховы помнікаў, гісторыі і культуры **Антон Астаповіч** называе ўзорна-паказальный?

– У свой час у Вілейцы былі вядомы краязнаўцы **Анатоль Рогач** і **Віталь Кастэнка**, – разважае Канецкі. – Яны сталі кумірамі для моладзі, паказвалі прыклад і былі побач. І моладзь, якая цікавілася гісторыяй, уцягнулася. Мы ж разам з імі працавалі, ездзілі па раёне, бачылі, што робяць яны. І сённяшняя наша праца – у іх памяць. Да таго ж, у кожнага з нас ёсць свой кірунак працы, у якім ён наймацнейшы.

Самымі складанымі за гэтыя пяць год для суполкі былі два праекты. Першы – стварэнне інфармацыйнага дыска "Шляхамі Вілейшчыны" 2010 года, што вымагала шмат часу і разумовых высілкаў. Складана фізічна было абнавіць помнік ва Уладыках.

Сёлета адной з запланаваных работ стане прыбіранне на могілках у Вязыні. Сябры суполкі плануюць зрабіць апісанне магіл і пашпарт могілак.

– Гэта старыя і вельмі прыгожыя могілкі, – аргументуе Дзяніс Канецкі. – Адзіныя, дзе захаваліся слупы з бутавага каменю.

Зоя ХРУЦКАЯ.

ВЫХАВАННЕ

# Адсвяткавалі Дзень Незалежнасці Грэцыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра тое, што грэкі не п'юць чай, вельмі прымхлівыя і любяць расцягнуць смачны абед, даведаліся будучыя бухгалтары ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча.**

Навучэнцаў 208-й групы гандлёва-эканамічнага каледжа запрасілі на чарговыя заняткі ў зале літаратуры на замежных мовах у межах праекта "Па краінах і кантынентах з лыжкай". Бібліятэкары у межах праекта знаёмяць моладзь са звычаямі пэўнай краіны, а таксама ўсе разам гатуюць якую-небудзь традыцыйную страву.

Заняткі адбыліся 25 сакавіка, калі грэкі святкуюць Дзень Незалежнасці ад Асманскага ярма: у 1821 годзе пачалося паўстанне, якое прывяло народ да свабоды. У гэты ж дзень беларусы святкуюць абвяшчэнне Беларускай народнай рэспублікі.

## Замест вербнай нядзелі – пальмавая

Спачатку навучэнцам паказалі фільм пра чароўныя мясціны, але яшчэ больш цікавым быў расповед галоўнага бібліятэкара залы **Таццяны Летуновай**. Напрыклад, у манаскім комплексе Метэоры, размешчаным на высокіх скалах, знайшлі пустэльніка. Ён не спускаўся 53 гады і сілкаваўся ў скалах толькі вадой і травамі ўвесь гэты час. Востраў Афон, на які не ступала нага жанчыны, усё ж становіцца бліжэй, дазваляючы прывозіць у розныя краіны свае рэліквіі.

Таццяна Летунова распавяла пра надзвычайную прымхлівасць грэкаў. Яны заўсёды носяць бірузу і ніколі не хваляць іншых ці сябе – каб не сурочылі. Хросныя бацькі абавязкова дораць дзіцяці чаравічкі, каб яно роўненька пайшло ў жыццё. Першы госць у Новы год прыносіць гранат і разбівае аб падлогу. Рассыпаныя зярняткі нібы прыносяць шчасце.

Замест вербнай нядзелі ў іх пальмавая. 8 студзеня, а не сакавіка, у грэкаў Дзень жанчын. Усе прадстаўніцы чароўнага полу збіраюцца ў кавярні з сяброўкамі ці наведваюць салоны прыгажосці, а мужчыны гаспадараць па доме. Кава – адзін з любімых напояў у Грэцыі. Чай там не п'юць, толькі гарбату.

Грэкі любяць раз на дзень дазволіць сабе добры абед, калі ў добрай кампаніі спажываюць смачныя стравы. Іх ежа вельмі здаровая, шмат гароднiны і, вядома, аліўкавага алею і спецый. Бібліятэкары заўважылі, што маянэз ужо сыходзіць са сталоў па ўсім свеце, а ў Грэцыі ён і не меў шанцу прыжыцца – натуральная запраўка мае бясспрэчную перавагу. Далей жанчыны падзяліліся рэцэптам самага любімага грэчаскага соусу, які дадаюць у любыя стравы і нават проста мачаюць у яго хлеб.

**Грэчаскі соус: да ёгурту без дадатку дадаём крыху часнаку. Агурок трэба буйна нацерці і даць сцячы соку. Пырснуць лімоннага соку, дадаць соль і перац, можна падсаладзіць мёдам.**

Пасля навучэнцаў навучылі правільна сервіраваць стол. Затым здзейснілі самі прыгатавалі грэчаскую салату і пачаставалі ўдзельнікаў заняткаў.

Зоя ХРУЦКАЯ.

Рэцэпт грэчаскай салаты і больш фота на сайце






Будучыя бухгалтары рыхтуюць грэчаскую салату, страву не толькі смачную, але і карысную.



Фота Алеся ДЗЯМІДЧЫКА.

Навучэнка музкаледжа Ірына Макарэвіч мае дар чуць і вызначаць любую ноту.

ВЕДАЙ НАШЫХ

# Пра тых, на чые вушы слон не наступіў

**МАЛАДЗЕЧНА. Чуць вышыню гуку, называць ноту, хутка вызначаць танальнасць мелодыі, якая гучыць ў тэлевізары ці па радыё, могуць далёка не ўсе.**

Але пры вялікім жаданні такую магчымасць можа атрымаць любы чалавек, які хоць крыху ўяўляе, што такое музыка.

Абсалютны музычны слых – здольнасць вельмі рэдкая. Чалавек з такім слыхам нібы мае ў галаве свой цюнар, з дапамогай якога настройваюць інструменты. Музыканты называюць гэту здольнасць абсалютным эталонам вышыні гуку.

Мець абсалютны слых неабавязкова. Да прыкладу, яго не было ў Чайкоўскага. Аднак нельга сказаць, што гэта нашкодзіла яго кар'еры.

Адораны абсалютным слыхам можа не мець ніякай музычнай адукацыі. Тым не менш, пачуўшы нейкую ноту, ён можа сказаць: “Гэта той самы гук, з якога пачыналася мелодыя ў любімым фільме”. Праўда, назваць гэтую ноту чалавек, які не мае музычнай адукацыі, не зможа, бо гэта ўжо навука, сальфеджыа.

### Яны маюць “візітоўку” музыкаў

Навучэнкі Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага **Настасся Кароль** і **Ірына Макарэвіч** валодаюць абсалютным слыхам, аднак развілі яго па-рознаму. Цяпер гэта іх музычная візітная картка.

**– Настасся, як вы зразумелі, што маеце такі дар? Ці ёсць якая карысць ад яго?**

– Гэта пачалося, калі мне было дзесьці гадоў сем, пасля таго, як паступіла ў дзіцячую музычную школу. Вакол мяне ў школе паўсюль была музыка. Чым больш я даведвалася новага падчас навучання, тым больш я адчувала ў сабе здольнасць выключна адрозніваць і чуць гукі. Ужо тады, у зусім малым узросце, магла сесці ды сыграць мелодыю, якая мне спадабалася. Усё дзякуючы такому слыху.

Тым не менш, абсалютны слых можна і развіць. Спецыяльным метадам скарысталася Ірына яшчэ задоўга да паступлення ў музычны каледж.

– Музыкай я займаюся з дзяцінства. І заўсёды хацелася навучыцца пісаць без памылак музычныя дыктоўкі, каб у дзённіку былі выдатныя адзнакі. Гэта і падштурхнула мяне да самаразвіцця. Кожны вечар я іграла на акардэоне адну і тую ж ноту – до. З часам запомніла яе гучанне, а пасля хадзіла і час ад часу напявала. І літаральна за некалькі месяцаў такой працы я развіла такі слых.

**– Ірына, з такім слыхам лёгка вучыцца музыцы?**

– Вучыцца значна лягчэй. Такі слых дапамагае амаль на ўсіх музычных прадметах. Проста аналізуецца музыка і вызначаюцца асобныя ноты. Гэтак жа дзякуючы яму я хутка падбіраю акампанемент да розных песень.

У сярэднім сярод навучэнцаў маладзечанскага музычнага каледжа на групу з дзесяці чалавек прыходзіцца два-тры такія таленты.

**Алесь ДЗЯМІДЧЫК, школа журналістыкі пры “РГ”.**

Доктар Роберт Прафіта, псіхіятр, які працуе ў Лос-Анджэлесе, валодае стопрацэнтным абсалютным музычным слыхам. Гэта заўважылі, калі яму было шэсць гадоў. Аказалася, пры праслухоўванні акорда з шасці нот ён можа вылучыць кожную. Але гэта адзінкавыя выпадкі. Большасць людзей з абсалютным слыхам могуць адрозніць ноты ў акордзе з трох нот. І вельмі нешматлікія – з чатырох.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Будуюць помнік афганцам за народныя сродкі

**ВІЛЕЙКА. Вілейскі райвыканкам падтрымаў ініцыятыву савета ветэранаў вайны ў Афганістане і іх сваякоў паставіць помнік ў гонар воінаў.**

Помнік “Воінам-інтэрнацыяналістам” усталююць у мемарыяльнай зоне гарадскога парку.

– Гэта будзе помнік воінам – нашым сынам, братам і сябрам, створаны за народныя сродкі, – адзначаюць арганізатары.

Кожны можа прыняць пасільны ўдзел у зборы сродкаў на будаўніцтва помніка і стварэнні музея “Воінам-інтэрнацыяналістам загінулым, памерлым і жывым, удзельнікам лакальных войнаў і ваенных канфліктаў у іншых краінах”.

Мэтавае выкарыстанне грошай пракантралюе Назіральны савет. Расходаванне дабрачынных ахвяраванняў будзе адкрытым і празрыстым.

Грошы накіроўваць Вілейскай арганізацыі грамадскага аб'яднання “Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане” на рахунак 3015220470019, філіял ААТ “Белаграпрамбанк” у Маладзечне, УНП 600663121, код 153001914 “На будаўніцтва помніка і стварэнне музея воінам-інтэрнацыялістам.

З просьбай дапамагчы вілейская арганізацыя Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане звяртаецца да кіраўнікоў і супрацоўнікаў установ, прадпрыемстваў і арганізацый, навучэнцаў і моладзі Вілейшчыны. Звяртаецца да ўсіх, для каго Памяць, Гонар і Годнасць – не просты гук.

**Паводле паведамлення вілейскай арганізацыі Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане. Праект помніка глядзіце на сайце**




МУЗЫКА

# Gran+ цяпер выступае з Masque Noir

**МАЛАДЗЕЧНА. Іх сумесны паўтарагадзінны канцэрт адбудзецца ў Мінску 29 сакавіка.**

Раней маладзечанец электроншчык **Сяргей Драбышэўскі**, вядомы як Gran+, выступаў пераважна адзін.

– Аднаму іграць стала папросту нудна. Цяпер аб'яднаўся з праектам Masque Noir, што ў перакладзе з французскай мовы азначае “Чорная маска”, – тлумачыць Gran+. – У іх жывыя барабаны, саксафон і электронны модуль, які стварае гукі проста з хваляў.

Цяпер музыкам трэба рэпэціраваць, сыгрывацца.

– Мы думалі, што распішам трэкі ды будзем іграць. Але ўсё так проста не выйдзе. Калі іграеш лайвам, ужывую, то можаш штосьці забыць, дзесьці заблытацца. А можа здарыцца і наадварот – выпадкова сыграеш, а яно выйдзе так класна, што быццам бы і рыхтавалі гэта спецыяльна. У гэтым уся фішка лайву, бо ты не ведаеш, што цябе чакае.

Ужо цяпер хлопцы думаюць над выпускам новага альбома, які, магчыма, будзе сумесны.

### Выйшаў першы альбом Gran+

Дарэчы, некалькі месяцаў таму выйшаў першы паўнавартасны альбом Gran+ Tet-a-tet/Night. Афіцыйная дата – 19 снежня, якраз у дзень нараджэння музыкі, у яго 25-годдзе.

У альбоме дзевяць трэкаў. Два гады яму спатрэбілася на тое, каб сабраць іх на адной пласцінцы.

– Другі трэк па ліку я пісаў часткамі, – распавядае музыка. – Першую – летась у верасні, а другую – у снежні. Такое здараецца, загатоўкі пакідаеш, а потым вяртаешся да іх і развіваеш далей. А першы трэк увогуле атрымаўся ў дарозе, у цягніку паміж Варшавай і Познанню. Напісаў за чатыры гадзіны. Атрымліваецца, куранты б'юць 12 ночы і пачынаецца Tet-a-tet/Night. Калі пачынаю пісаць музыку, мне хацелася даць зразумець людзям, што няма ніякіх межаў у музычных стылях. Галоўнае – энергетыка. Каб ад таго, што слухаеш, хацелася жыць.

### Ацэнкі экспертаў

Напрыканцы студзеня альбом трапіў на абмеркаванне да экспертаў на expert.by. Што вельмі здзівіла музыку, бо звычайна яны не цікавяцца электроннай музыкай. Агульная адзнака ад іх – 6,5 бала. Прыводзім водгук штатных экспертаў.

**Сяргей Будкін**:

– Тое, што робіць Сяргей Драбышэўскі, вельмі проста прыняць і палюбіць. Для гэтага варта паслухаць усяго толькі адзін трэк з яго новага рэлізу – Gentle Sigh. Нават калі б астатнія трэкі ўяўлялі з сябе проста набор выпадкова згенераваных гукаў, то ўсё адно Gran+ быў бы варты ўхвалы адно толькі за такую пекнату. Увесь альбом без рэшты варты ўвагі. Адметнасць гэтай працы – у яе аб'ёмным, мяккім і ненавязлівым гучанні. Гэтая музыка не дакучае і раскрываецца паволі. Зусім пановаму ў цяперашніх рэаліях слухаецца трэк Kiev, запісаны ўжывую задоўга да ўкраінскіх закалотаў. Даваршае справу ўдалы эксперымент з фольк-матэрыялам, рэмікс на Shuma. З электронных рэлізаў 2013 года гэта мусіць самы яскравы.

**Ягор Цывілька**:

– Першы паўнавартасны альбом электроншчыка Gran+ наўрад ці выбухне ў медыйнай прасторы, але аматары спакойнай электроннай музыкі, думаю, яго прымуць. Рэліз атрымаўся даволі флегматычным па настроі, але не сумным. Праўда, некаторым кампазіцыям, як мне падалося, не хапае развіцця, а часам манатонная зацыкленасць простых меладычных кавалкаў стамляе (Kuranty, Indian night).

Пры гэтым тут ёсць цудоўныя творы, якія чапляюць і западаюць у галаву (Gentle sigh, Tet a Tet Night). А бліжэй да канца дынаміка альбома парушаецца 16-хвілінным монстрам Kiev (live), цікавай, але лішняй тут кампазіцыяй. У выніку атрымліваем нядрэнны, але няроўны альбом, які можа стаць добрым фонам, а можа і забраць з галавой.

Gran+ таксама адзначаў і польскі эксперт Марыюш Хэрма ў асабістым топ-10 беларускіх альбомаў за 2013 год:

– Калі б Gran+ быў прадзюсарам з Лондана, Нью-Ёрка або Таронты, то мы б рэгулярна чыталі пра яго на сайце Resident Advisor. Выдатнае саўндпрадзюсаванне, напоўненае дэталямі, якія заўважаеш толькі падчас другога ці трэцяга праслухоўвання.

**Настасся РОЎДА.**

**Паслухаць і даць сваю ацэнку можна на сайце.**



● ФУТБОЛ

# Дырэктар ФСК "Маладзечна-2013": "Заяўка будзе адкліканая"

**МАЛАДЗЕЧНА. Петыцыя ад заўзятараў у падтрымку каманды сабрала 1567 подпісаў, аднак заяўка на ўдзел у другой лізе чэмпіянату краіны сёння будзе адкліканая.**

Тлумачыць дырэктар ФСК "Маладзечна-2013" **Аляксандр Любанец**: "За выхадныя сітуацыя з удзелам каманды не змянілася. Ніхто на сустрэчу не пайшоў. Таму сёння (у аўторак, 25 сакавіка) я накірую афіцыйны ліст у федэрацыю футбола аб тым, што каманда "Маладзечна-2013" здымаецца з удзелу ў рэспубліканскіх спаборніцтвах.

**– І подпісы, сабраныя заўзятарамі ў петыцыі, не паўплывалі?**

– А хто пра гэту петыцыю, акрамя нас з вамі, ведае? Інтэрнэтаўская петыцыя – гэта дзіцячая забава. Для кіраўніцтва горада і футбольнай федэрацыі трэба дакумент, надрукаваны на паперы.

У тэксце петыцыі гаворыцца пра тое, што "ад 1949 года каманда горада Маладзечна выступае на рэспубліканскім узроўні. Сезон 2014 павінны стаць юбілейным, 65-м, для нашай каманды. Але ўзнікла вялікая праблема – з-за стварэння ў горадзе хакейнай каманды і, як вынік, недастатковага фінансавання, няма, нібыта, магчымасці ўтрымліваць футбольны клуб. Хоць заявачны ўнёсак скараціўся ў гэтым годзе з 77 да 40 мільёнаў рублёў!

Больш за тое, у гэтым сезоне чэмпіянат будзе праходзіць па занальным прынцыпе, што дазволіць скараціць выдаткі на выязныя матчы. Маладзечна – футбольны горад, у нас ёсць свая спартыўная школа, стадыён на 4800 месцаў і вялізарная аўдыторыя балельшчыкаў і людзей, якім неабыякавы лёс самага відовішчнага і масавага віду спорту. Усіх, хто неабыякава ставіцца да гісторыі і сённяшняга дня маладзечанскага футбола, прашу падпісаць гэтую петыцыю!".

**Іна Драпеза**, начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму, у сваім каментары была нешматслоўная: "Я петыцыі ў вочы не бачыла. Адкуль я ведаю, што за яна? Таму і рашэння ніякага не прымалася".

Заўзятар **Дзмітры Рухлевіч**, які быў ініцыятарам збору подпісаў, кажа: "Усе лісты адпраўленыя на электронную пошту асобаў, да якіх звярталіся ў петыцыі. Кіраўніцтва каманды "Маладзечна-2013" заяўку пакуль не адклікала, калі адкліча, то адашлю ліст з просьбай заявіць каманду дзіцячай спартшколы".

Вядома, што ліст з просьбай аб захаванні ў горадзе футбольнай каманды Дзмітры Рухлевіч накіраваў у Адміністрацыю Прэзідэнта Беларусі.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

**Здымак зроблены на апошняй гульні сезона-2013. Магчыма, на гульні апошняга сезона…**

● УСХОДНІЯ АДЗІНАБОРСТВЫ

## Вілейскія каратысты перамаглі ў Гродне

**ВІЛЕЙКА. Адкрытае першынство і чэмпіянат Гродна і Гродзенскай вобласці па каратэ праходзілі 16 сакавіка. Усяго было каля трохсот удзельнікаў.**

Прыехалі прадстаўнікі адных з наймацнейшых клубаў з Мінска, Пінска, Брэста, Гомеля, Барысава, Віцебска, Оршы, Магілёўскай вобласці і нават спартсмены з Польшчы.

– Барацьба ішла ў кожным паядынку ад пачатку да канца, як у фінале. Ледзь расслабіўся, тут жа прайграў, – падзяліўся ўражаннямі ад чэмпіянату трэнер клуба "Самурай" **Сяргей Кірыевіч**. – Нашы спартсмены змагаліся, як маглі. Некаторым не пашанцавала з сапернікамі, хтосьці проста "перагарэў", чакаючы свайго бою. У гэту катэгорыю патрапілі спартсмены, якія павінны былі ўзяць медалі: **Дзіма Стражнікаў**, **Ян Раманоўскі**. Але ўсё роўна малайцы. Так як усе хлопцы рыхтаваліся, не прапускаючы ні адной трэніроўкі, не кожнаму па сілах.

Але ж прызавыя месцы мы ўсё ж такі ўзялі. **Улад Закрэўскі** ў катэгорыі 12-13 год да 45 кілаграмаў быў другім, а яму ж 12 год споўнілася за дзень да спаборніцтваў. На шляху да фіналу ён прайшоў вельмі складаныя паядынкі. **Мікіта Кірыевіч** перамог у катэгорыі 14-15 год да 57 кілаграмаў. Фінал выйграў у спартсмена з Гродна. **Павел Кірыевіч** заняў першае месца ў катэгорыі 16-17 гадоў звыш за 68 кілаграмаў. Вельмі цяжкі ў яго выдаўся паядынак з сапернікам з Пінска, у якім Павел выйграў з лікам 6:4. А ў фінале адолеў каратыста з Мінска. Хочацца павіншаваць усіх прызёраў і падзякаваць за падтрымку ў паездцы на турнір бацькам выхаванцаў – Стражнікавым, Рамаоўскім, Луцкіным, Ролічам.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Сяргеем КІРЫЕВІЧАМ.

**Павел Кірыевіч, Улад Закрэўскі і Мікіта Кірыевіч – пераможцы-каратысты з Вілейкі.**

## Майстар айкідо з Японіі правядзе семінар

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі клуб айкідо святкуе 20-годдзе.**

Да гэтай даты прымеркаваны міжнародны семінар пад кіраўніцтвам шыхана Макота Іта, вядучага інструктара Сусветнага цэнтра айкідо Айкікай Ханбу Дадзё ў Токіа (Японія), які адбудзецца 3 красавіка.

– Для маладзечанскага клуба айкідо гэта падзея мае асаблівае значэнне: упершыню да нас прыязджае майстар такога ўзроўню (Макота Іта мае 7 дан айкідо, які даецца за выключную тэхніку – рэд.) і мы будзем мець гонар сустракаць яго ў нашым горадзе і прымаць удзел у трэніроўках, якія Макота Іта правядзе для ўдзельнікаў семінара, – гаворыць **Аляксандр Валасковіч**, старшыня гарадской федэрацыі айкідо, кіраўнік клуба і школы айкідо Маладзечна.

**Наталля ТУР.**

● НАВІНЫ

## Білет на дамашнія матчы "Смаргоні" падаражэў удвая

**СМАРГОНЬ.** У гэтым сезоне білет на дамашнія матчы футбольнага клуба "Смаргонь" будзе каштаваць 10 тысяч рублёў. Пра гэта паведамляе сайт sportnaviny.com.

У параўнанні з мінулым сезонам адбылося 100-працэнтнае падаражанне.

Першы матч ФК "Смаргонь" правядзе на выездзе. Матч пройдзе 19 красавіка на стадыёне "Палессе" ў Лунінцы. Саперніцай каманды са Смаргоні стане футбольны клуб "Граніт" з горада Мікашэвічы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Завяршыўся чэмпіянат раёна па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ.** У суботу, 22 сакавіка, завяршыўся чэмпіянат раёна па міні-футболе. Як паведамляла "РГ", пераможца вызначыўся за тыдзень да заканчэння. Ім стала каманда Мядзела, якая выйграла ўсе свае матчы. Заставалася толькі вызначыць прызёраў.

У выніку другое месца заняла каманда цэнтра "Зубраня", трэцяе – аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама, паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

**"Но в целом збіраў и сдавал пустые бутылки" – з новай кнігі Тані Скарынкінай**

Верш "Толік" і на прозу не цягнееееееее! Жах! ***Чытач.***

Плынь свядомасці стварае ўражанне, што чытач быццам бы "падслухоўвае" думкі персанажаў. На жаль, у мяне пасля прачытання верша "Толік" было адчуванне, што прачытала неймавернае глупства. Я за мастацтва чыстай красы, якое сцвярджаў Багдановіч! Хаця на кожны тавар знойдзецца купец, можа, камусьці такія вершы падабаюцца! ***Толік.***

**Што там, за калючым дротам супрацьтуберкулёзнага дыспансера?**

Жудаснае месца. Шчырая павага медыкам, якія там працуюць. Беражыце сябе. ***Андрэй.***

Божа! Як гэта страшна! Людзі, беражыце сябе! ***Чытач.***

**Бумбуль, Воўк, Даўбешкін, Казлоў, Лось, Люля... (1 частка: А-Ж)**

Яшчэ не факт, што прозвішча Аскірка запісанае дакладна. Ёсць варыянт – Аскерка. Гэта той выпадак, як з Мёрамі. Пісалі палякі Міогу, а чыталася Мёры, а руская грамацей, якія прыйшлі ў 1939-м, перапісалі з польскай лацініцы на рускую кірыліцу – Миоры. Таму ёсць верагоднасць, што гэтыя ж грамацеі з польскага напісання Oskierko вывелі Аскірка. Прозвішча Аскерка з цюркскіх моў – воін. (Татарскія вайсковыя фармацыі былі ў войску ВКЛ). Да такіх высноў схіляе мяне той факт, што ўладальнікам маёнтка Азерцы пад Глыбокім да 1939 года быў Аскерка. І да сёння старыя людзі гэтага пана згадваюць толькі пад прозвішчам Аскерка. А вось у актах агляду былых панскіх маёнткаў, якія складалі новыя савецкія ўлады пасля 17 верасня 1939 года, напісана – "бывшее имение помещика Оскирко". ***Уладзімір.***

## ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

### Які павінен быць дэпутат?

**30%:** Нонканфарміст (не баіцца выступіць з меркаваннем, супярэчным большасці)

**27%** Беларускамоўны

**25%:** Мэтанакіраваны: разумець, што хоча зрабіць у якасці дэпутата

**9%:** Малады, не старэй за 40 год

**4%:** З мноствам ідэй

**2%:** Сталы, не маладзей за 40 год

Усяго галасоў 43

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 6 | 5 | | 2 | | 7 |
| | | | 9 | 2 | 7 | | 3 | |
| | | | | | | | | 9 |
| 8 | | 9 | | | | 7 | | 5 |
| 5 | 6 | | | | | | 4 | 8 |
| 3 | | 2 | | | | 9 | | 6 |
| 4 | | | | | | | | |
| | 2 | | 5 | 3 | 9 | | | |
| 7 | | 5 | | 1 | 2 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧАНШЧЫНЫ



Фота Насці РОЎДЫ.

**22 сакавіка, у дзень вясенняга раўнадзенства, у Вязыньцы гукалі вясну. Дзяўчаты ў народных строях гушкаліся на арэлях, вадзілі карагоды, ладзілі народныя гульні, спявалі песні. Можна было там пачаставацца і блінамі, і медавухай. Праўда, апошняя вельмі хутка скончылася. Ну, і без гасцей на свяце не абышлося, яны тут былі самыя розныя.**

## РЭПЕРТУАР

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

Драма, прыгоды "**Ной**", 3D (ЗША, 2014, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
28 сакавіка – у 21:00
29 сакавіка – у 14:00, 19:00
30 сакавіка – у 14:00, 21:30
31 сакавіка – у 18:30
1 красавіка – у 21:00
2 красавіка – у 18:30
3 красавіка – у 21:00
Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў.

Крымінальны экшн "**Need for Speed: Прага хуткасці**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
28 сакавіка – у 18:30
29, 30 сакавіка – у 16:30
31 сакавіка – у 21:00
1 красавіка – у 18:30
2 красавіка – у 16:00
3 красавіка – у 18:30
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Прыгоды містэра Пібадзі і Шэрмана**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
28 сакавіка – у 16:30
29, 30 сакавіка – у 12:00
3 красавіка – у 16:30
Кошт білета – 20 000-30 000 рублёў.

Фэнтэзі "**Вій**", 3D (Расія, Украіна, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
28 сакавіка – у 14:00
30 сакавіка – у 19:00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Эпічны экшн "**300 спартанцаў: Росквіт імперыі**", 3D (США,2014)
29 сакавіка – у 21:30
2 красавіка – у 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Фэнтэзі, камедыя "Кіндэрвілейскі прывід" (Беларусь, 2014, без узроставых абмежаванняў)
28-30 сакавіка – у 15:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Меладрама, камедыя "**Добрыя ўчынкі**" (ЗША, 2012, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
28 сакавіка – у 19:30
29 сакавіка – у 17:30
30 сакавіка – у 17:30,19:30
1 красавіка – у 19:30
2, 3 красавіка – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер "**Небяспечная спакуса**" (Мексіка, 2014, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
28 сакавіка – у 21:30
29 сакавіка – у 19:30, 21:30
30 сакавіка – 1 красавіка – у 21:30
2, 3 красавіка – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на красавік**

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў**" (казка-страшылка), *Сяргей Бялоў*
11, пятніца, – у 12.30

**Гастролі Гомельскага гарадскога моладзевага тэатра**

"**Чарадзей ізумруднага горада**" (казка для дзяцей), *Сяргей Казлоў*
24, чацвер, – у 10.30 і 12.40

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Аблом OFF**" (драма ў 2-х дзеях), Міхаіл Уграаў
5, субота, – у 17.00
10, чацвер, – у 19.00

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), Сцяпан Лабазёраў
8, аўторак, – у 19.00

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
9, серада, – у 19.00

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
11, пятніца, – у 19.00

**Гастролі Гомельскага гарадскога моладзевага тэатра**

"**Сыграй яшчэ раз, Сэм**" (камедыя), *Вудзі Ален*
23, серада, – у 19.00

ПРЭМ'ЕРА. "**Падобны на Стынга**" (рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
25, пятніца, – у 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,*
тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Чырвоная шапачка**" (казка), *Я.Шварц*
30 сакавіка – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ГАРАСКОП

**(28 САКАВІКА – 3 КРАСАВІКА)**



**Авен.** Як бы ні развіваліся падзеі на любоўным фронце, галоўнае, захоўвайце спакой. Эмацыйнасць сёння іграе супраць вас.



**Цялец.** Нейкае з новых знаёмстваў можа перарасці ў моцнае сяброўства ці нават у каханне. У спрэчных сітуацыях прыслухоўвайцеся да ўласнай інтуіцыі, яна не падвядзе вас ні сёння, ні заўтра.



**Блізняты.** Кантралюйце свае траты, бо ваш апетыт расце з кожным днём, ёсць рызыка застацца на мялі.



**Рак.** Вы адчуеце пачуццё невераголнай значнасці. Каб у сардэчных справах не адбылося разлад, зрабіце так, каб ваша запатрабаванасць не прыгнятала вам паспяховага партнёра.



**Леў.** На вас нойдзе нейкая нястрыманасць, ад чаго вы рызыкуеце сапсаваць адносіны нават з лепшым сябрам. Каб гэтага не адбылося, трымайце свае крыўдныя выказванні пры сабе. Уяўляйце, што быццам бы ведзяце гутарку з незнаёмым чалавекам.



**Дзева.** Вам пашанцуе ў фінансавых пытаннях. Калі хочаце прасунуцца па кар'ернай лесвіцы, шукайце прыхільнасць калегі-Валадзея. Гэты чалавек здольны задаць вам новую планку развіцця і потым скласці пратэкцыю.



**Шалі.** Вы адчуеце прылiў энергіі і прагу творчасці. Адзінае, што катэгарычна не рэкамендуецца, – гэта фарсіраванне падзей. Усяму свой час.



**Скарпіён.** Менавіта цяпер вы можаце закласці трывалы падмурак для будучага кар'ернага трыумфу.



**Стралец.** Любыя адносіны – гэта кампраміс. І цяпер вы гэта добра адчуеце. Калі вы не разгубіцеся і скарыстаецеся момантам, то будзеце ўзнагароджаны з лішкам.



**Казярог.** Адносіны з блізкімі ў вас складваюцца не проста. Вы, як ніколі, яўна адчуеце праблему непаразумення паміж рознымі пакаленнямі. Але вось жа дзіўна, што спрэчкі не разрозняць, а толькі ўмацуюць сям'ю.



**Вадалей.** Вы не застанецеся без падтрымкі звыш, калі возьмецеся за сур'ёзнае навучанне ці пастараецеся ўладкаваць сваё ўласнае жыццё.



**Рыбы.** Гараскоп здароўя раіць вам больш увагі ўдзяліць стану зубоў і дзяснаў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

